www.nv-online.info

№ 91 (4240)

17 лістапада 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# 18 лютага 2018 года – выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў

## Каляндарны план кампаніі

** Да 24 лістапада павінны быць створаны тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў.*

** З 10 снежня па 8 студзеня – вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты.*

** З 9 студзеня па 18 студзеня – рэгістрацыя кандыдатаў.*

** Фінішны этап – перадвыбарная агітацыя кандыдатаў у дэпутаты.*

*Агульная сума расходаў на правядзенне выбараў дэпутатаў у мясцовыя Саветы – 21 мільён 491 тысяча рублёў.*



ВІЗІТ

## Вітаем, спадар Габрыэль!



Сёння, 17 лістапада, Беларусь з рабочым візітам наведае віцэ-канцлер, федэральны міністр замежных спраў Нямеччыны **Зігмар Габрыэль**. Гэта першы з 1995 года двухбаковы візіт федэральнага міністра замежных спраў Германіі ў нашу краіну.

У рамках візіту запланавана сустрэча З.Габрыэля з міністрам замежных спраў Беларусі **Уладзімірам Макеем.**

Плануецца, што міністры абмяркуюць шырокі спектр пытанняў двухбаковага супрацоўніцтва, перспектывы развіцця дыялогу па лініі Беларусь–ЕС, абмяняюцца думкамі па міжнародным і рэгіянальным парадку дня.

Зігмар Габрыэль возьме таксама ўдзел у XV Мінскім форуме.

ХРОНІКА

## Дзверы для іх заўжды адчынены

Зігмар Габрыэль – віцэ-канцлер з 17 снежня 2013 года і міністр замежных спраў з 27 студзеня 2017 года. Член Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі (быў яе лідарам з лістапада 2009 года па сакавік 2017-га), якая ўваходзіць у кіруючую кааліцыю з хрысціянскімі дэмакратамі канцлера Ангелы Меркель. Паводле вынікаў апошніх парламенцкіх выбараў СДПГ, як чакаецца, пойдзе ў апазіцыю. Перамовы аб стварэнні новай кааліцыі паміж партыямі, якія прайшлі ў бундэстаг, працягваюцца.

У лістападзе 2010 года Мінск наведаў міністр замежных спраў Германіі Гіда Вестэрвеле. Гэта быў сумесны візіт з кіраўніком польскага знешнепалітычнага ведамства Радаславам Сікорскім. У лютым 2015 года кіраўнік нямецкай дыпламатыі Франк-Вальтэр Штайнмаер разам з канцлерам Меркель знаходзіўся ў Мінску на чатырохбаковых перамовах (Украіна – Германія – Францыя – Расія) па ўрэгуляванні сітуацыі ў Данбасе.

ВІНШУЕМ!



Фота BELTA.by

## Святлана Румянцава атрымала «Хрустальнага жураўля» і ключы ад машыны

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Баравухскай сярэдняй школы №15 Наваполацка **Святлана Румянцава** – настаўнік года Беларусі – 2017. Яна перамагла ў традыцыйным конкурсе, у якім сёлета ўдзельнічалі 30 тысяч настаўнікаў з усіх рэгіёнаў краіны.

Імя пераможцы стала вядома напярэдадні Дня настаўніка, а ўчора намеснік прэм'ер-міністра Беларусі **Васіль Жарко** ўручыў Святлане Румянцавай вялікага "Хрустальнага жураўля" і ключы ад аўтамабіля.

ДЫЯЛОГ

## «МІНСКІ ФОРУМ»: лепш гаварыць адзін з адным, чым адзін пра аднаго

Учора пачаў сваю работу "Мінскі Форум-XV. Беларусь, Германія і ЕС: "Ускоднае партнёрства", грамадзянская супольнасць і эканамічныя адносіны". Гэтая своеасаблівая пляцоўка для дыялогу дзейнічае ўжо 20 гадоў.

Сёлета ў рабоце Форуму прымаюць удзел прыкладна 300 чалавек з Беларусі, Германіі, шэрагу іншых краін. Сёння на Форум завітае з прамовай міністр замежных спраў Германіі **Зігмар Габрыэль.** Выступіць таксама міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей.**

Учора на прэс-канферэнцыі, прысвечанай "Мінскаму Форуму XV", сваімі думкамі падзяліліся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі **Петэр Дэтмар** і старшыня "Мінскага Форуму" прафесар **Райнэр Ліндnэр.** Яны распавялі пра прыярытэтныя пытанні, якія будуць абмяркоўваца на працягу трох дзён: эканоміка, адміністрацыйныя рэформы, электронная дзяржкіраванне, укараненне лічбавых тэхналогій, інвестыцыі і супрацоўніцтва з замежнымі прадпрыемствамі. На дыскусійных пляцоўках Форуму будуць мець магчымасць выказацца спецыялісты розных міністэрстваў, эксперты і прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці.

Асноўныя партнёры Форуму – два галоўныя фонды Германіі: імя Конрада Адэнаўэра і імя Фрыдрыха Эберта.

Петэр Дэтмар, у прыватнасці, сказаў:

– Калі б такога Форуму не было, трэба было б яго прыдумаць. Сёння ён наглядна паказвае, што па-ранейшаму выклікае вялікую цікавасць. Існуе ісціна: лепш гаварыць адзін з адным, чым адзін пра аднаго. Форум для гэтага стварае прыдатную атмасферу.

Мы не пераацэньваем ролю, якую адыгрываюць такія мерапрыемствы, але можам сказаць, што ў яго рамках заўсёды маглі выразна і ясна прагучаць самыя розныя думкі. Ці ўносіла гэта ўклад у паляпшэнне сітуацыі? Не ведаю, але магу сказаць, што падчас "Мінскага Форуму" за апошнія дваццаць гадоў міністры замежных спраў сустракаліся з прадстаўнікамі апазіцыі, у той жа час за межамі Форуму яны б ніколі не сустрэліся. Хоць вырашальную ролю ў паляпшэнні сітуацыі ўносяць іншыя, больш важныя гульцы. А менавіта ўрады краін, самі краіны.

**Алена МАЛОЧКА.**

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

## Абраны толькі 5 акадэмікаў…

Паводле вынікаў таемнага галасавання Агульнага сходу НАН Беларусі абрана толькі 5 акадэмікаў, хаця вакантнымі былі 13 званняў. Сярод тых, хто атрымаў званне акадэміка, – доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН РБ, дырэктар Інстытута мовазнаўства **Аляксандр Лукашанец**, вядомы медыкі – дырэктар РНПЦ траўматалогіі і артапедыі **Аляксандр Бялецкі** і нейрафізіёлаг **Уладзімір Кульчыцкі**, а таксама галоўны вучоны сакратар НАН Беларусі **Аляксандр Кільчэўскі** і дырэктар Рэспубліканскага навуковага дачынага ўнітарнага прадпрыемства "Інстытут ільну" **Іван Голуб.**

Дырэктар Інстытута мікрабіялогіі НАН Беларусі **Эмілія Каламіец**, якая другі раз запар спрабавала стаць акадэмікам, ізноў засталася без гэтага звання – падчас галасавання яна не атрымала неабходных 2/3 галасоў.

## …і 22 члены-карэспандэнты

Што тычыцца членаў-карэспандэнтаў, то Агульным сходам зацверджаны 22 чалавекі, сярод іх былы старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі **Рыгор Васілевіч**, дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Ігар Марзалюк** і дырэктар РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак **Алег Румо.**

**Увесь спіс абраных членкораў выглядае так:**

**Матус Пётр** (вылічальная матэматыка),
**Кавалёў Міхаіл** (інфармацыйныя тэхналогіі),
**Магілеўцаў Дзмітрый** (квантавая оптыка),
**Тарасенка Мікалай** (лазерныя тэхналогіі),
**Малярэвіч Аляксандр** (прыборабудаванне),
**Грынчук Павел** (энергаэфектыўныя тэхналогіі),
**Жабінскі Уладзімір** (біяарганічная хімія),
**Багдасараў Максім** (геалогія),
**Шаўчук Вячаслаў** (калоідная хімія),
**Кабашнікава Людміла** (біяфізіка),
**Дубавец Надзея** (генетыка),
**Усеня Уладзімір** (лесазнаўства),
**Торчык Уладзімір** (экалогія раслін),
**Сердзючэнка Мікалай** (лазерная тэрапія),
**Булгак Аляксандр** (неадкладная кардыялогія),
**Румо Алег** (трансплантацыя органаў),
**Гурэвіч Генадзь** (фізіяпульманалогія),
**Шанько Юрый** (хірургія),
**Марзалюк Ігар** (археалогія),
**Васілевіч Рыгор** (права),
**Шайко Руслан** (селекцыя і развядзенне сельскагаспадарчых жывёл),
**Урбан Эрома** (селекцыя і насенняводства сельскагаспадарчых раслін).

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**ІДЗЕ ПАДПІСКА**
*на "Народную Волю" на снежань 2017-га і на першую палову 2018 года.*

УСМЕШКА МАСТАКА

## Рэкордны рост…

Паводле звестак Белстата, у верасні гэтага года намінальная налічаная зарплата работнікаў у сферы дзяржкіравання склала 1084 рублі, у той час як у верасні мінулага года яна была 790,4 рубля. Такім чынам, за год зарплата вырасла на 37,1%.

Сярод усіх відаў дзейнасці ў краіне гэта максімальны рост зарплаты. Прычым узровень заробкаў чыноўнікаў на 30,4% вышэйшы, чым у сярэднім па Беларусі.

**Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.**




ЗАКУЛІССЕ

## З-за інтрыг фізікі-матэматыкі страцілі два месцы акадэмікаў

Учора ў Акадэміі навук абіралі акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў. Праходзіў апошні этап галасавання – на Агульным сходзе Акадэміі. Яшчэ да падвядзення канчатковых вынікаў далёка было відома, што Аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі новых акадэмікаў не папоўніцца, хаця вакантныя былі два месцы!

*"Усё праз інтрыгі"*, – сцвярджае "Народнай Волі" крыніца ў Акадэміі навук.

Справа ў тым, што галасаванню на Агульным сходзе, дзе збіраюцца ўсе дзейныя члены і членкоры Акадэміі, папярэднічае галасаванне ў аддзяленнях. То бок спачатку медыкі галасуюць за медыкаў, гуманітарыі – за гуманітарыяў, аграрнікі – за аграрнікаў і г.д. Менавіта ў аддзяленнях і вызначаюцца пераможцы, якіх потым зацвярджае або не Агульны сход. Напрыклад, вакантна месца аднаго акадэміка па спецыяльнасці "беларуская гісторыя" Аддзялення гуманітарных навук і мастацтва, а на званне прэтэндуюць двое вучоных. Менавіта на пасяджэнні аддзялення і выбіраюць аднаго пераможцу, за якога потым тайна галасуюць на Агульным сходзе. Сёлета ў гісторыкаў так і адбылося: на галасаванні ў аддзяленні перамог дырэктар Інстытута гісторыі, даследчык Другой сусветнай вайны **Аляксандр Каваленя**. Праўда, на Агульным сходзе Каваленю не падтрымалі і акадэмікам ён не стаў.

А што адбывалася ў аддзяленні фізікі, матэматыкі і інфарматыкі?

*– Тройчы склікаліся пасяджэнні і тройчы не вызначылі пераможцу!* – расказвае крыніца "Народнай Волі". *– І кандыдатуры былі дастойныя. На адно месца акадэміка па спецыяльнасці "оптыка" спаборнічалі члены-карэспандэнты, супрацоўнікі Інстытута фізікі імя Сцяпанава **Уладзімір Белы** і **Сяргей Ціхаміраў**, на месца акадэміка па спецыяльнасці "інфарматыўныя тэхналогіі" ўвогуле было ажно 4 кандыдаты, сярод якіх 59-гадовы генеральны дырэктар Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук **Аляксандр Тузікаў**. Але ніхто з іх не набраў 2/3 галасоў падчас галасавання. Прычым, паўтаруся, тройчы збіраліся пасяджэнні і тройчы ішло галасаванне.*

*Хіба не можна было знайсці выйсця з гэтай сітуацыі?! Калі стала зразумела, што першае галасаванне плёну не дало, другое таксама, чаму б не правесці кансультацыі, не пасадзіць кандыдатаў у акадэміі і не прапанаваць ім зрабіць добры жэст і камусьці знязь кандыдатуру на карысць саперніка? А так страцілі два месцы акадэмікаў! І невядома, ці застануцца яны да наступных выбараў у аддзяленні фізікі, матэматыкі і інфарматыкі. Можа, іх аддадуць аграрнікам, альбо гуманітарыям, альбо медыкам, дзе заўсёды знойдуцца кандыдаты?!*

*Чаму так адбылося? Таму што ў акадэміі сёння пануе інтрыганства. У аддзяленні фізікі, матэматыкі і інфарматыкі з даўніх часоў сапернічаюць два кланы – клан былога старшыні акадэміі, магутнага савецкага менеджара Барысевіча і клан былога дырэктара Інстытута фізікі імя Сцяпанава, – і адны адных не цярпяць. Вучоныя не ўзняліся да таго, каб знайсці кампраміс. Прыкра!"*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

*«Народная Воля»*
*в* Twitter *www.twitter.com/narodnaya_volya*
*в* Facebook *www.facebook.com/nv.online.info*
*в* Vkontakte *www.vk.com/nvonlineinfo*

